наша свабода

№106(193) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

28 ВЕРАСНЯ 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



# Растрывожаныя Курапаты



Тысячы галубоў кружаць над урочышчам Курапаты - нібыта душы закатаваных тут сталінскімі карнікамі ўзняліся ў неба, абуджаныя варварскім ровам бульдозераў, прыгнаных пляжыць трагічную мясціну Беларусі

Фота IREX/ProMedia

## Міраслава Гангадзэ папярэджвае беларускія ўлады

Жонка забітага ўкраінскага журналіста Георгія Гангадзэ, якая атрымала палітычны прытулак у ЗША, звярнулася да Савета Еўропы і іншых міжнародных арганізацыяў з просьбай дапамагчы з паўторным незалежным следствам у справе знікнення яе мужа, а таксама зацікавілася беларускай сітуацыяй.

Міраслава Гангадзэ мела некалькі сустрэчаў з жонкамі зніклых у Беларусі палітыкаў і журналіста. Яна адсочвае развіццё беларускіх падзеяў і ў інтэрв'ю для «Ю.С.Ньюс» у Страсбургу зазначыла, што жонкі зніклых беларусаў знаходзяцца ў яшчэ горшым становішчы, чым яна.

«Цяпер Беларусь у такой сітуацыі, што ніводная міжнародная структура не мае магчымасці ўплыву на Беларусь і яе ўлады. Беларускія ўлады зусім нічога не робяць, каб паспрыяць расследаванню і знайсці адказы на пастаўленыя грамадствам пытанні. Я хачу сказаць беларускай уладзе, што за ўсё — за ўсе злачынствы, за ўсё, што яна зрабіла і зробіць, — ёй прыйдзецца адказваць, рана ці позна. Калі гэта будзе не сёння, дык заўтра», — заявіла Міраслава Гангадзэ.

«Я лічу, што трэба змагацца, і бачу, як беларускія жонкі гэта робяць. Гэта доўгі працэс, і ён не будзе лёгкім. Беларускае грамадства павінна само вырасці і самаабнавіцца. Я са свайго боку пастараюся стварыць тыя механізмы, якія б дапамаглі забяспечыць ціск на ўлады Беларусі ды іншых дзяржаваў. Таму зараз для мяне галоўная задача — стварыць міжнародныя механізмы ціску і ўплыву на ўрады, якія знішчаюць свабоду слова, знішчаюць апазіцыйных палітыкаў і журналістаў», — сказала ўдава Георгія Гангадзэ.

**Валер КАЛІНОЎСКІ, спецыяльна для агенцтва «Ю.С.Ньюс» (www.yusnews.com)**

## Канадцы ўцякаюць

З-за нестабільнага інвэстыцыйнага клімату ў Беларусі канадзкая фірма «Кансьюмэрз» выйшла зь ліку заснавальнікаў сумеснага канадзка-беларускага прадпрыемства шклозавод «Ялізава» і прапанавала набыць свае акцыі за 7 мільёнаў 500 тысяч даляраў.

Сумеснае прадпрыемства ўзьнікла пры шклозаводзе «Кастрычніцкі», што месьціцца ў гарадзкім пасёлку Ялізава Асіповіцкага раёну. Тры гады кіраўніцтва прадпрыемства рэканструявала прамысловыя памяшканьні, ставіла абсталяваньне. Канадцы ацэньваюць свае выдаткі на сем з паловай мільёнаў амэрыканскіх даляраў.

Ужо сёлета сумеснае прадпрыемства зьбіралася выпускаць прадукцыю. Справа была за малым — завезьці з замежжа новае сэкцыйнае абсталяваньне коштам 10 мільёнаў амэрыканскіх даляраў і распачаць працу. Аднак, калі на мяжы запатрабавалі мытныя пошліны на 6 мільёнаў даляраў, уладальнікі канадзкай фірмы зьмянілі свае намеры.

Намесьнік старшыні аблвыканкаму Аляксандар Селязьнёў, які наведаў Ялізава, заявіў, што без інвэстыцыяў сумеснае прадпрыемства чакае банкруцтва. Аднак уладальнікі фірмы «Кансьюмэрз» не зьбіраюцца везьці ў Беларусь абсталяваньне, увоз якога каштуе больш як палову ягонага кошту. Яны выйшлі з складу заснавальнікаў шклозаводу «Ялізава» і прапануюць купіць іхныя акцыі ў прадпрыемстве за сем з паловай мільёнаў амэрыканскіх даляраў.

Як паведамляюць супрацоўнікі прадпрыемства, гэтыя акцыі прапанавалі купіць вядомаму беларускаму прадпрымальніку, дэпутату «палаты прадстаўнікоў» Аляксею Ваганаву.

Дарэчы, ягоная фірма «Лада-ОМС» уваходзіць у склад заснавальнікаў гэтага сумеснага прадпрыемства. Іншае пытаньне, ці знойдуцца ў яго альбо каго іншага неабходныя грошы. Калі не — прадпрыемства чакае банкруцтва.

**Аляксандар СЕРДЗЮКОЎ Радыё «Свабода»**

# Ряды безработных послов

## *Армия безработных в Беларуси пополняется из дипломатического корпуса*

*Прошедшие президентские выборы, как обещают, должны дать очередной толчок кадровой перетряске среди белорусских чиновников. Очевидно, что этот процесс сталкивается с немалыми трудностями. В силу относительной открытости по сравнению с другими государственными структурами, в качестве примера такого состояния многие наблюдатели склонны рассматривать министерство иностранных дел Беларуси.*

Оно оказалось в интересном положении. В центральном аппарате белорусского внешнеполитического ведомства уже долгое время существуют немало вакантных должностей. И в то же время, немалое число послов, дипломатов других рангов, возвратившись на родину, оказались не нужны своему ведомству. Пожалуй, одним из известных безработных послов до сих пор числится Анатолий Бутевич, который уже не один год после своего возвращения из Бухареста обитает в Минске. Можно вспомнить, что до дипломатической карьеры он работал весьма успешно на разных ответственных должностях. Уезжал он в Бухарест с должности министра информации. Определенный интерес продолжает вызывать персона Владимира Лабунова, проработавшего белорусским послом почти семь лет в Брюсселе.

Еще год назад уже ни для кого не было секретом, что В.Лабунова сменит на посту посла Беларуси в странах Бенилюкса и Европейского Союза тогдашний первый заместитель министра иностранных дел Сергей Мартынов. Так и произошло. Недавно Мартынов вручил верительные грамоты королю Бельгии. А сам Лабунов, вопреки слухам, что он намерен остаться работать на научном поприще в Брюсселе, все же возвратился в Минск.

*Заканчэнне на стар.3*

# «Ехали уроды на «Дажынкі»

*Песня з такой назвай вядомага беларускага панк-рок-гурта «Нейрадзюбель» лічылася апошнія некалькі месяцаў фактычна забароненай. І не дзіва. Нязменнае кіраўніцтва краіны вельмі любіць гэтае калгасна-саўгаснае свята і ніколі не шкадуе на яго грошай.*

Вось і сёлета на правядзенне «Дажынак» у Мазыры было выдзелена з бюджэту краіны каля 2 мільярдаў рублёў – або каля 1,4 мільёна долараў.

Дажынкі пачнуцца сёння з ушанавання «лепшых гаспадарак рэспублікі, якія дамагліся сёлета найбольшай прадуктыўнасці зерневых і зернебабовых культураў у разліку на бала-гектар пасеваў», даводзяць афіцыйныя крыніцы. Гаспадаркі-пераможцы «агульнарэспубліканскага спаборніцтва» атрымаюць у падарунак Ганаровыя дыпломы і аўтамабілі для службовага карыстання.

Фестываль працягнецца святочнымі кірмашом і канцэртам.

Увесь гэты «свальны грэх» наведаюць, па некаторых падліках, да 5.000 чалавек. Вялікую частку з іх будуць складаць чыноўнікі рознага рангу з усіх куткоў Беларусі. Сярод іх будзе і самы галоўны, для якога і ладзіцца гэтае свята на ўзроўні найбуйнейшай культурнай падзеі ў жыцці краіны – накшталт Канскага фестывалю ў Францыі.

Да падрыхтоўкі «Дажынак» мазырскія чыноўнікі падышлі сур'ёзна. Яны вырашылі, відаць, пераплюнуць леташняе святкаванне на малой радзіме «ўсенародна абранага» – у Шклове – і склалі грунтоўны каштарыс выдаткаў. Сапраўды, калі яшчэ з'явіцца такі выпадак палепшыць выгляд горада? Па некаторых звестках, мазырскія «Дажынкі» спачатку каштавалі ажно 22 мільярды рублёў. Праўда, цэнтр не ўхваліў такую ініцыятыву і абмежаваўся 2 мільярдамі.

Усе апошнія паўгода Мазыр рыхтаваўся да свайго «выпускнога экзамену» ў выглядзе «Дажынак». Горад увесь перакапалі – і рамантавалі, тынкавалі, будавалі... Адрамантавалі цэнтральную плошчу Леніна. Навялі парадак на плошчы ля маста праз Прыпяць. «Вылізалі» дарогу да саўгаса-камбіната «Зара», які нібыта мусіць наведаць А.Лукашэнка. Усё гэта рабілася за сродкі бюджэту Беларусі.

Але гэтым не абмежаваліся. Упрыгожванне гарадскога парку, Рынкавай плошчы і некаторых вуліцаў, а таксама рамонт гарадскіх цепласетак былі зробленыя за кошт гарадскога бюджэту. Пры гэтым, паколькі ў гэтым бюджэце дзірак больш, чым грошай, горад завінаваціўся будаўнікам каля паўмільярда рублёў. Калі гэтыя сродкі будуць сплачаныя, ніхто не ведае.

Мазырскія ўлады патрабавалі-папрасілі ад усіх прадпрыемстваў аказаць дапамогу роднаму гораду. Больш за астатніх выдаткаваў Магілёўскі нафтаперапрацоўчы завод – 300 мільёнаў рублёў. Іх накіравалі на рэканструкцыю Кургана Славы. Усе астатнія донары не назбіралі разам і 100 мільёнаў.

Як паведаміла радыё «Свабода», ад Беларускага рачнога параходства патрабавалі прыгнаць у Мазыр цеплаходы – 2 штукі.

*Заканчэнне на стар.3*

## Сайт, прысвечаны Завадскаму

Англамоўны веб-сайт, прысвечаны аператару ОРТ Зміцеру Завадскаму, які знік у Беларусі больш за год таму, адкрыўся па адрасе *www.geocities.com/free_belarus/Zavadsky*. Тут змешчаная ўся інфармацыя, якая датычыцца знікнення, а таксама фотаздымкі самога Завадскага і яго сям'і.

## Яшчэ адзін «Саюз»

Бліжэйшым часам мае пачаць сваё вяшчанне новая беларуска-расійская радыёстанцыя «Саюз». Радыёстанцыя будзе фінансавацца са сродкаў бюджэту Саюза Беларусі і Расіі. Плануецца, што «Саюз» будзе вяшчаць кругласутачна і на Расію, і Беларусь.

## Супраць продажу МАЗа

Прадстаўнікі незарэгістраванай маладзёжнай арганізацыі Малады Фронт плануюць правесці 2 кастрычніка а 15-й гадзіне каля прахадной Мінскага аўтамабільнага завода акцыю пратэсту ў звязку з магчымым продажам МАЗа расійскай прамысловай групе «Сибирский алюминий».

## У паляпшэнне не верыцца

Толькі 13% кіраўнікоў прамысловых прадпрыемстваў Беларусі лічаць, што ў бліжэйшыя два-тры месяцы эканамічнае становішча іх прадпрыемстваў палепшыцца. 29% мяркуюць, што пагоршыцца, а асноўная маса (гэта 54%) думае, што не зменіцца.

## Пагроза «Тэлефільму»

Беларускія кінематаграфісты занепакоеныя крытычным становішчам нацыянальнага кінематографа. У іхняй заяве, прынятай на фестывалі беларускіх фільмаў у Брэсце, у прыватнасці, гаворыцца пра творчае аб'яднанне «Тэлефільм», якое падчас рэарганізацыі Белтэлерадыёкампаніі апынулася ў дырэкцыі перспектыўнага вяшчання: апошні старшыня БТ В.Скварцоў збіраўся падтрымаць «Тэлефільм», а сённяшні в.а. старшыні Я.Рыбакоў вырашыў яго закрыць.

## Новы пасол Нямеччыны

Паслом Нямеччыны ў Беларусі замест Хорста Вінкельмана будзе Вільгельм Фрык. Ён нарадзіўся ў 1939 годзе, па адукацыі – юрыст. Працаваў у амбасадах Нямеччыны ў некалькіх краінах Усходняй Еўропы.

### НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1500**

# Пераслед удзельнікаў «Незалежнага назірання» ў Брэсце

З каардынатарам «Незалежнага назірання» за выбарамі Прэзідэнта РБ гутарыць спецыяльны карэспандэнт НАШАЙ СВАБОДЫ

**Іна АПАНАСЕНКА, каардынатар «Незалежнага назірання» за выбарамі Прэзідэнта РБ у Брэсцкай вобласці**

***— Як вы можаце ацаніць сітуацыю ў Брэсце пасля выбараў?***

— Як заціхша перад бурай. Супраць людзей, якія працавалі назіральнікамі на парламенцкіх, а зараз на прэзідэнцкіх выбарах, узбуджаюцца крымінальныя справы. Ідзе збор кампраматаў. У асноўным гэта распаўсюд апазіцыйнай прэсы і агітацыйных матэрыялаў. Але самае цікавае, што нікога не «злавілі за руку», а сведкаў незлічона. Людзей, якія працавалі ў «Незалежным назіранні», выклікаюць на допыты ў пракуратуру, з імі праводзяць гутаркі. Людзям адкрыта кажуць, што ідзе збор кампрамату. Я б сказала, што людзей проста запалохваюць. Да такіх гаворкаў падключаныя РАУСы і аблвыканкам. З неафіцыйных крыніцаў стала вядома, што таксама пачынаецца пераслед журналістаў. У раённага каардынатара з Жабінкі адбыўся незаконны вобыск без ягонага ведама. У кватэры проста выламалі дзверы.

***— Чаму вы ўпэўненыя, што гэта быў вобыск, а не крадзёж?***

— Былі «скрадзеныя» матэрыялы, якія мелі дачыненне менавіта да выбараў. Каму яны патрэбныя? У кватэры знайшлі некалькі налепак «Стоп, Лука».

***— У адносінах да вас былі нейкія спробы ўздзеяння?***

— 9 верасня ў 23:30 мне патэлефанавалі з аблвыканкама і запрасілі на размову ў аддзел па рабоце з грамадскімі арганізацыямі. Асобу, якая тэлефанавала, вельмі цікавіла сітуацыя на выбарчым участку №74, дзе міжнародныя журналісты, дарэчы, акрэдытаваныя МЗС, выявілі ўскрытую скрыню для галасавання. Але я сказала, што сустрэча можа адбыцца толькі ў пракуратуры ў якасці сведкі па дадзеным факце.

**Рыгор ВАРВАШЭВІЧ, назіральнік у Маскоўскай раённай камісіі Брэста**

***— Вы назіральнік з вопытам. Прымалі ўдзел у назіранні падчас парламенцкіх выбараў. Ці адчувалася розніца?***

— У параўнанні з апошнімі парламенцкімі прэзідэнцкія выбары былі больш падрыхтаваныя да фальсіфікацыяў. Я б сказаў, што гэтая кампанія была больш праінструктаваная. Нам вядомыя факты, калі старшыняў камісіяў пасылалі на інструктаж да начальніка арганізацыйнага аддзела аблвыканкама. Інструктаж праводзіўся таксама і наконт працы назіральнікаў.

***— Падчас працы назіральнікам вам чынілі нейкія перашкоды?***

— Так. Ведаючы, што мне давядзецца шмат працаваць, я ўзяў адпачынак за свой кошт. Але недзе праз тыдзень мне патэлефанавалі і сказалі, што я павінен тэрмінова выйсці на працу.

24 верасня мяне выклікалі ў суд сведкам па адміністратыўнай справе.

***— У сувязі з чым узбуджаная гэтая справа?***

— Я маю пасведчанне карэспандэнта рэспубліканскай газеты «Правінцыялка». Згодна з Выбарчым кодэксам РБ, я маю права прысутнічаць на любых выбарчых участках на ўсіх этапах выбарчага працэсу. Як журналіст я вырашыў скарыстацца такім правам. Я выбраў гімназію №5, дзе вучылася мая дачка. 8 верасня я наведаў выбарчы ўчастак №11, які месціцца там, і ніякіх перашкодаў мне там не чынілі. 9 верасня я хацеў паназіраць за падлікам галасоў на гэтым жа выбарчым участку, але шлях мне перакрыў супрацоўнік міліцыі Сцепанюк, які спрабаваў мяне справакаваць. Ён нават дастаў кайданкі. Калі я сказаў, што складу акт аб парушэнні выбарчага заканадаўства, лейтэнант Сцепанюк выклікаў ажно два нарады міліцыі. Мяне завезлі ў Ленінскі РАУС г.Брэста. Там склалі пратакол па арт.166 «Непадпарадкаванне законным патрабаванням міліцыі» і арт.167 ч.3 "Парушэнне заканадаўства аб выбарах». Я разумею, калі б такое абвінавачванне мне выказала старшыня камісіі, але супрацоўнік міліцыі...

І вось на панядзелак мне было прызначана з'явіцца ў суд. Мяне абараняў юрыст Праваабарончага цэнтра «Вясна» Малей Уладзімір. Знаёмячыся з матэрыяламі, ён заўважыў, што ў дакументах перабылталі маё імя па бацьку. Я Сямёнавіч, а яны абазвалі мяне Сцяпанавічам. Суддзя Алег Міранюк вынес пастанову адправіць дакументы назад у РАУС на дапрацоўку.

***— Пасля выбараў вы даведаліся, што супраць вас узбуджаная справа?***

— На рабоце майстар сказала: «У аддзел кадраў паступіў запыт ад Ленінскага РАУС г.Брэста ў сувязі з узбуджэннем справы». Нібыта за абразу прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Я чуў, што падобныя справы ўжо ўзбуджаныя супраць кіраўніка Праваабарончага цэнтра «Вясна» Уладзіміра Вялічкіна і Васіля Андрасюка. Рэч у тым, што апошнім часам у раёне, дзе жыву я і В.Андрасюк, актыўна распаўсюджваецца газета «Прэзідэнт». Але ні я, ні мой сябра падобныя рэчы не займаемся. Няхай возьмуць адбіткі пальцаў...

Гутарыла **Валянціна ЛЕЦКА**




# «Ехали уроды на «Дажынкі»

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Па словах начальніка параходства Міхаіла Туманава, яны будуць выкарыстоўвацца для прагулак. Пры гэтым, суднаходства па Прыпяці – як грузавое, так і пасажырскае – практычна сканала. «Злыя языкі» кажуць, што такім чынам у Мазыры на час «Дажынак» узнікне Пацёмкінскі флот. Апроч таго, Беларускае параходства мусіла да «Дажынак» адрамантаваць даўно зачынены рачны вакзал Мазыра.

У працэсе падзелу грошай не абышлося без пакрыўджаных. Напрыклад, кіраўніцтва Мазырскага раёна абвінавачвае Мазыр у тым, што горад «забраў» практычна ўсе «дажынкаўскія» грошы сабе. Кіраўнік справамі Мазырскага райвыканкама Уладзімір Бязручка паведаміў, што раёну дасталіся «толькі крохі», на якія былі праведзены касметычны рамонт дахаў, фасадаў і платоў у некаторых населеных пунктах. У.Бязручка ўдакладніў, што раён мусіць наведаць 12 дэлегацыяў, якія трэба будзе вазіць па гаспадарках, забаўляць канцэртамі і рассяляць.

Тым часам, у «Дажынак» пачаліся непрыемнасці. Спачатку святкаванне перанеслі на месяц. Калі стала зразумела, што да 25 жніўня ўраджай не будзе сабраны, было вырашана з «Дажынкамі» пачакаць – хоць на гэты фестываль ускладаліся вельмі вялікія спадзяванні з агітацыйнага пункту гледжання. Беларускі кіраўнік «элегантна» мог патлумачыць з трыбуны, якіх поспехаў дасягнула беларуская сельская гаспадарка ў час ягонага кіравання краінай. Але не атрымалася.

Другі раз «Дажынкі»мелася адсвяткаваць 21-22 верасня. Зноў прамашка. Не ўсе паспелі падрыхтавацца. У рэшце рэшт, святкаванне перанеслі на сёння-заўтра.

Загадзя ў горад сталі падцягваць «сілавікі» – некалькі сотняў звычайных міліцыянтаў і супрацоўнікаў службы бяспекі прэзідэнта. Яны будуць падтрымоўваць парадак падчас святкаванняў і ахоўваць «усенародна абранага» ад народа, які яго нібыта абраў.

Таксама да «Дажынак» рыхтуюцца гандляры сельскагаспадарчай прадукцыяй – гароднінай і жывёлай. Падчас свята будзе весціся продаж гэтых тавараў адразу на пяці пляцоўках.

Тым часам А.Лукашэнка даў ужо адмашку на правядзенне «Дажынак-2002». Па ягоных словах, сельскагаспадарчае свята пройдзе ў Полацку, хоць гэта не сельскагаспадарчы, а культурны цэнтр.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Лукашэнка – хірург або вівісектар?

У сераду пабачыў свет указ А.Лукашэнкі «Аб удасканаленні сістэмы рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання і іншых дзяржаўных арганізацыяў, падпарадкаваных ураду Рэспублікі Беларусь». На падставе гэтага дакумента зараз адбываецца рэфармаванне структуры ўлады. Новая рэформа закліканая скараціць армію чыноўнікаў як мінімум на 10%.

Паводле ўказа, у Беларусі застаецца 24 міністэрствы, а таксама 4 дзяржкамітэты з статусам міністэрства. Астатнія ліквідуюцца, далучаюцца або аб'ядноўваюцца адным махам рукі кіраўніка дзяржавы – ён нібыта хірург-вівісектар, які, эксперыментуючы, прышывае адным жывым істотам часткі іншых.

Першай ахвярай «скальпеля» Лукашэнкі сталі міністэрствы па ўпраўленні дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыяй, а таксама прадпрымальніцтва і інвестыцыяў. Яны былі проста ампутаваныя, бо, відавочна, у іх не засталося больш патрэбы. Новае-старое кіраўніцтва краіны і без асобнага міністэрства добра ведае, як распарадзіцца дзяржаўнай маёмасцю. Пачатак гаспадарання на беларускіх прадпрыемствах расійскіх алігархаў толькі пацвярджае гэта. Што ж датычыць прадпрымальніцтва і інвестыцыяў – то абедзве гэтыя матэрыі так і засталіся «рудыментарнымі» для ўрада Беларусі. Інвестыцыяў наша краіна не бачыла ўжо даўно (калі не лічыць расійскіх уліванняў).

А прадпрымальнікамі, трэба меркаваць, цяпер будуць займацца новаўтвораныя міністэрства па падатках і зборах разам з міністэрствам унутраных справаў. Варожы клас, што і казаць.

Такі ж сумны лёс напаткаў дзяржкамітэты па справах моладзі, па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў і па гідраметэаралогіі. Іх проста ампутавалі, як непатрэбны больш апендыкс.

Але ампутацыя – гэта просты, механічны працэс. Сапраўднаму творцу там няма дзе прымяніць свой палёт фантазіі. Таму далей пачынаюцца больш цікавыя змены.

Міністэрства працы і міністэрства сацыяльнай абароны зліліся ў адно. Кіраваць імі будзе жанчына – былая загадчыца эканамічнага ўпраўлення прэзідэнцкай адміністрацыі Антаніна Морава.

Дзяржаўны камітэт фінансавых расследаванняў «прышылі» да Дзяржаўнага камітэта кантролю. І так моцная кантралюючая структура стала яшчэ мацнейшай. Яе кіраўнік – КДБшнік «па прызванні» Анатоль Тозік – набывае ўсё большую вагу ў кіраўніцтве краінай.

Дэпартамент па гуманітарнай дзейнасці, які кантралюе і рэгулюе паступленне ўсёй гуманітарнай дапамогі ў Беларусь, трапіў воляй галоўнага вівісектара пад крыло упраўлення справамі прэзідэнта. Добра ведаючы норавы гэтай арганізацыі, якой цяпер належыць ці не ўвесь нежылы фонд Беларусі, можна быць упэўненым: гуманітарная дапамога далей не пройдзе. Усё затрымаецца ва ўпраўленні справамі.

Міністэрства лясной гаспадаркі ўрэзалі настолькі, што яно страціла свой статус і ператварылася ў камітэт па лясной гаспадарцы. Затое адразу два камітэты сталі міністэрствамі. Дзяржкамдрук – міністэрствам інфармацыі, а падатковы камітэт – міністэрствам па падатках і зборах. Апроч таго, на костках усіх зліквідаваных структураў будзе пабудаванае новае міністэрства энергетыкі. У яго склад увойдуць канцэрны «Белтрансгаз», «Белэнерга» і «Белпалівагаз». Цяпер міністэрству энергетыкі шукаюць кіраўніка.

Не пашанцавала рэктару найбуйнейшага беларускага ВНУ – Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Аляксандру Казуліну. Калі раней ён па сваёй пасадзе меў статус міністра і не падпарадкоўваўся амаль нікому, то цяпер БДУ зноў падпарадкавалі міністэрству адукацыі.

Праўда, дагэтуль не з'явіўся указ аб прызначэнні міністра адукацыі. Магчыма, што былы міністр Васіль Стражаў не задавальняе кіраўніцтва краіны, і яму падбіраюць замену. Так што для А.Казуліна тэарэтычна існуе магчымасць перасесці ў ягонае крэсла.

А.Лукашэнка сваім «хірургічным» указам патрабуе ад чыноўніцтва скараціць дакументазварот не менш чым у 2 разы, а іхні колькасны склад – не менш чым на 10%.

Але, як паказвае практыка, чыноўнікі ў нас не губляюцца. Апошнім часам стала добрай традыцыяй адпраўляць іх на экспарт. Або амбасадарамі ў замежныя краіны – але вольных месцаў засталося няшмат; або супрацоўнікамі «органаў Саюзнай дзяржавы» – у Маскву. Масква – яна вялікая, яшчэ і не столькі беларусаў сцерпіць.

**Ірына СТАРЦАВА**

# Ряды безработных послов

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Но никакой информации, что опытный посол как-то трудоустроился в своем или ином ведомстве, не появилось. А ведь какие обстоятельные письма писал академик-посол в президентскую администрацию с предложениями об интегрировании Беларуси в цивилизованный мир! Однако, чем-то, похоже, Лабунов не пришелся президентскому двору. Впрочем, как и ученый-физик Игорь Малевич, работавший в Пекине и возглавлявший дипломатическую миссию в Сеуле. Не исключено, что в судьбе Малевича могла сыграть определенную роль ксенофобия, царящая в правящей верхушке. Ведь до прихода в МИД он работал профессором в ведущих университетах США, ФРГ, Финляндии и других стран. А ныне, как известно, с такой биографией можно и в поле зрения «интересов национальной безопасности» попасть. По некоторым данным, Малевичу прочили место посла в Лондоне. Но, как видно, не предначертано.

По-своему сложилась судьба и другого бывшего посла Михаила Маринича, которого угораздило, неожиданно для многих, попасть в оппозицию. Понятно, что после такого итога президентских выборов трудоустроиться ему в Беларуси будет практически невозможно.

До сих пор оставалось неясным ближайшее будущее бывшего посла Беларуси в Белграде Валерия Брилева. После смещения его тестя Ивана Ивановича Антоновича с поста министра иностранных дел, надо полагать, место для зятя в МИД подыскивалось с трудом. Но буквально на днях было решено определить его на должность начальника Управления двустороннего сотрудничества с государствами-участниками СНГ. А что касается самого Антоновича, то, оказавшись российским гражданином, он трудоустроился профессором в МГУ.

Кстати, об иностранных гражданах, работавших в МИД Беларуси. По неофициальной информации, многие годы интересы суверенной Беларуси в Украине представлял посол Владимир Курашик, имевший украинское гражданство. Говорят, Владимир Курашик, которого недавно сменил в Киеве также бывший первый заместитель министра иностранных дел Валентин Величко, обосновался в Крыму, где имеет собственное дело.

Следует отметить, что белорусский закон о гражданстве не допускает двойного гражданства. Вот и возникает у многих вопрос: интересы каких государств представляли (а может и сейчас такие имеются) иностранные граждане в МИД? По некоторым данным, граждане других государств проникали на руководящие должности и в других белорусских ведомствах. По словам Валерия Кеза, бывшего шефа военной контрразведки, среди таковых был и нынешний шеф КГБ Леонид Ерин, приехавший в Минск из Москвы.

Продолжая перечень отставных послов, можно вспомнить и недавний отзыв, по неизвестным причинам, белорусского посла из Ханоя. И уж если говорить о дипломатическом присутствии суверенной Беларуси в этой части света, то представляется вероятным, что в основном имитации бурной работы находятся главы дипломатических миссий в Токио и Сеуле. К ним, в силу известного состояния двусторонних отношений с США, можно присовокупить и посла Валерия Цепкало.

По мнению ряда наблюдателей, явно ненормальное положение, когда при кадровом голоде за воротами МИД прозябают безработные послы, другие возвращенные многие дипломаты, может свидетельствовать о следующем. Широко разрекламированная реконструкция внешнеполитического ведомства, произведенная два года назад, ощутимых положительных результатов не дала. Да и не могла дать, так как все и вся в Беларуси находятся в ведении одного человека, которого все знают. Продекларированная после смещения Антоновича приверженность набору на конкурсной основе новых кадров в МИД и загранучреждения лишь видоизменила так называемый блатной набор. По звонку. Или чиновничьей интуиции. Можно говорить и о том, что при нынешней внешней политике режима работа в МИД перестала быть престижной. Как по психофизическим, так и по материальным причинам. Очевидно также, что нынешнее состояние с кадрами характерно не только для МИД, но и для остальных органов государственного управления. Вся система власти – из прошлого, а то и позапрошлого века. Так что рост армии элитных безработных обеспечен.

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

